 


# наша свабода

№6(233) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

18 СТУДЗЕНЯ 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


## Суд аднавіў на працы

16 студзеня 2002 году суд Чэрвеньскага раёну аднавіў на працы выкладчыка Смілавіцкага сельскагаспадарчага тэхнікуму Аляксандра Нікіціна, незаконна звольненага з працы 5 верасня 2001 году за актыўны ўдзел у кампаніі «Незалежнае назіранне».

На судовым пасяджэнні (5-ым пасяджэнні па дадзеным іску) былі агучаны вынікі крыміналістычнай экспертызы ад 23 лістапада. Экспертыза пацвердзіла, што пры звальненні А.Нікіціна былі выкарыстаны падробныя дакументы – кантракт аб скасаванні працоўнай дамовы. Экспертыза выявіла сапраўдны тэкст дакументу, які змяшчаў шматлікія падчысткі і выпраўленні.

У выніку старшыня Чэрвеньскага раённага суду Наталля Тарасік вынесла рашэнне — аднавіць на працы выкладчыка Смілавіцкага сельскагаспадарчага тэхнікуму Аляксандра Нікіціна, выплаціць яму заробак за час вымушанага прагулу і кампенсаваць маральныя страты за незаконнае звальненне (50 тыс. беларускіх рублёў).

**ПЦ «Вясна»**

## Беларускага пытання не будзе

Палітычны камітэт Парламенцкай асамблеі Савету Эўропы (ПАСЕ) не плануе абмеркавання беларускага пытання падчас парламенцкай сесіі ў Страсбургу, якая пройдзе з 21 па 26 студзеня.

Пасля таго, як у студзені 1997 году бюро ПАСЕ прыпыніла дзеянне для Беларусі статусу «спецыяльнага запрошанага», Палітычны камітэт ПАСЕ пачынаючы з 1998-га штогод арганізоўваў абмеркаванне сітуацыі ў Беларусі. Апошнім разам такое мерапрыемства прайшло ў Страсбургу ў студзені 2001 году. Першапачаткова планавалася, што і цяпер Палітычны камітэт арганізуе такія слуханні. У лістападзе 2001 году на выязным пасяджэнні Палітычнага камітэту ў Вільнюсе вырашылі накіраваць у Беларусь спецыяльную дэлегацыю, якая б ацаніла сітуацыю ў краіне і выказала сваё меркаванне на страсбургскіх слуханнях. Аднак гэтая дэлегацыя Мінск так і не наведала.

**БелаПАН**

# Адкрыты ліст калектыва МТЗ да Лукашэнкі



Фота Ул.Шляпака

*Працоўны калектыў рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Мінскі трактарны завод» звярнуўся з адкрытым лістом да прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, у якім папрасіў узяць справу Міхаіла Лявонава пад асабісты кантроль, вызваліць яго з-пад варты і вярнуць на завод.*

«Тыя дзеянні, якія былі ажыццёўленыя работнікамі Пракуратуры Беларусі ў дачыненні да генеральнага дырэктара РУП «МТЗ» Лявонава 07.01.2002 г., выклікалі ў калектыве беларускіх трактарабудаўнікоў шокавы стан, — гаворыцца ў лісце. — Асабліва іх бесцырымоннасць. Мы шмат пабачылі на сваім вяку, асабліва за апошнія шэсць гадоў, але дайсці да апошняй крайнасці ў дачыненні да лідэра дырэктарскага корпусу краіны, які так шмат зрабіў для роднага завода і краіны ў цэлым, патрыёта Беларусі — гэта ніяк не можа пакінуць абыякавым калектыў прадпрыемства... Мы зусім не супраць прыцягнення да адказнасці людзей, якія парушаюць законы. Але спачатку неабходна сабраць доказы іх вінаватасці, а потым саджаць за краты, а не наадварот. Гэта аксіёма для ўсёй сусветнай супольнасці, дык чаму яна парушаецца ў нас? Арышт Лявонава М.В. мы лічым найгрубейшай працэсуальнай памылкай Пракуратуры Рэспублікі Беларусь».

У траўні-чэрвені 2001 году Пракуратура Беларусі сумесна з Камітэтам дзяржаўнага кантролю, Камітэтам дзяржаўнай бяспекі, міністэрствам унутраных спраў і міністэрствам прамысловасці правялі праверку на МТЗ, узбудзілі некалькі крымінальных спраў, аднак супраць самога Лявонава ніякіх абвінавачанняў вылучана не было, зазначаюць аўтары ліста. Афіцыйны акт, паводле іх інфармацыі, быў падпісаны 12 ліпеня.

*Заканчэнне на стар.3*

# Навіны інтэграцыі

## *Пуцін лічыць беларуска-польскую мяжу сваёй*

*Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін на прэс-канферэнцыі ў Варшаве па сканчэнні першага раўнду перамоваў з польскім прэзідэнтам Аляксандрам Квасьнеўскім сказаў, што «расійска-польскую мяжу ў абодва бакі штогод перасякаюць мільёны людзей».*



Фота Ул.Шляпака

Усесаюзнае агенцтва «Інтэрфакс», у сваю чаргу, нагадвае, што расійска-польская мяжа ўяўляе сабою досыць невялікі адрэзак у былой Прусіі (цяперашняя паўднёвая мяжа Калінінградскай вобласці, у якой жывуць і якую наведваюць далёка не мільёны).

Відавочна, выкарыстоўваючы Саюзную дзяржаву Беларусі і Расіі, хаця б і на словах, дзеля павелічэння расійска-польскай мяжы, пра саму Беларусь – якая знаходзіцца паміж Расіяй і Польшчай – У.Пуцін нават не згадаў.

Затое расійскі прэзідэнт лічыць, што чаканы ўваход Польшчы ў ЕС не створыць перашкодаў для развіцця і паляпшэння адносінаў гэтай краіны з Расіяй, бо Польшча і Расія выйшлі на новы ўзровень адносінаў. «Гэта ў нас атрымалася», — сказаў Пуцін.

Кіраўнік Расіі падкрэсліў, што грунтуюцца гэтыя адносіны на «добрасуседстве, раўнапраўі, прагматызме і свабодзе ад палітычных праблемаў». Істотным момантам новага супрацоўніцтва У.Пуцін лічыць тое, што прыярытэт аддаецца эканоміцы.

*Заканчэнне на стар.3*

# Факты пра Чарнобыль

## *Ліст кіраўніка Чарнобыльскай місіі ААН Патрыка Грэя ў газету Observer*

*Брытанская газета Observer надрукавала артыкул, у якім праводзіцца думка аб наўмысным пераболыпанні ўплыву радыяцыі на жыццё людзей пацярпелых раёнаў.*

Ваш аналіз справаздачы ААН пра ацэнку вынікаў Чарнобыльскай аварыі для чалавека, публікацыя якога чакаецца ў найбліжэйшы час, дае цалкам скажонае ўяўленне пра яго высновы. Сапраўды, на сённяшні дзень адсутнічаюць агульнапрызнаныя эпідэміялагічныя дадзеныя пра рост выпадкаў лейкеміі і прыроджаных анамаліяў, выкліканых Чарнобыльскай аварыяй.

Аднак няма падстаў сцвярджаць, што адзіныя непасрэдныя клінічныя вынікі аварыі — гэта смерць 41 чалавека ад прамянёвай хваробы і выпадкі раку шчытападобнай залозы сярод дзяцей, агульная колькасць якіх, паводле слоў аўтара, складае 1 800. Насамрэч у праекце справаздачы місіі ААН адзначана, што, паводле самых кансерватыўных падлікаў, у найбліжэйшыя дзесяцігоддзі вырасце колькасць хворых на іншыя формы раку, непасрэдна звязаныя з узДзеяннем радыяцыі.

У апублікаваным Вамі матэрыяле справядліва адзначана, што аварыя мела сур'ёзныя псіхасацыяльныя вынікі і што рэалізаваная праграма перасялення парушыла нармальны лад жыцця соцень тысячаў людзей. Але абсалютна недапушчальна лічыць непакой людзей усяго толькі «іпахондрыяй», а высілкі ўрадаў Расіі, Беларусі і Украіны «непатрэбнымі і няправільнымі».

За 15 гадоў, што прайшлі пасля аварыі, вялікай шкоды нарабілі як тыя, хто імкнуўся папярэдзіць магчымыя нежаданыя вынікі, так і тыя, хто іграў на беспадстаўных страхах людзей.

Сёння як ніколі неабходнае сбалансаванае і навукова абгрунтаванае абмеркаванне вынікаў Чарнобыльскай аварыі для чалавецтва. Трэба таксама ўзнавіць намаганні, накіраваныя на тое, каб палегчыць пакуты хворых, спрычыненыя чарнобыльскім выбухам.

13 студзеня 2002 г.

**ВЕСТКІ**



## За год скрадзена 130 тон правадоў

У мінулым годзе ў Беларусі было зафіксавана блізу 500 выпадкаў крадзяжоў правадоў ліній электраперадач, а таксама разнастайнага электраабсталявання. Усяго скрадзена 130 тон алюмініевых правадоў, 39 трансфарматараў, 23 апоры ЛЭП. Апрача таго, зладзеі кралі лічыльнікі электраэнергіі і аўтавыключальнікі.

## Павялічыліся тарыфы на цяпло і ваду

З 16 студзеня ў нашай краіне на 10% павялічаныя тарыфы на ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне насельніцтва. Гэты захад зроблены дзеля выкання задачы па зніжэнні перакрыжаванага субсідэявання з 80% да 60%. Пакуль жа асноўную частку коштаў на згаданыя паслугі насельніцтву пакрывацьме бюджэт і прамысловыя прадпрыемствы.

## Дажылі да 20-тысячнай банкноты

21 студзеня 2002 году Нацыянальны банк Беларусі ўводзіць у абарачэнне банкноту вартасцю ў 20 тысяч рублёў. На купюры — выява палацу Румянцавых-Паскевічаў у Гомелі. Цяпер пакуль што самая буйная банкнота ў Беларусі – 10-тысячная, якая пачала хадзіць у леташнім красавіку.

## Мінск падсветляць яшчэ больш

У гэтым годзе ў беларускай сталіцы будуць падсвечаныя яшчэ больш як паўтары сотні будынкаў. У паўтаратнасці, падсвятленне з'явіцца на вуліцах Савецкай, Кірава, Леніна, Стражоўскай, Камуністычнай, Чырвонай. Падсвятленне ў Мінску ўключаецца ўвечары і працуе да паўночы.

## Аддалі зарплату за 4 месяцы

Працаўнікі калгасаў і саўгасаў Гродзеншчыны прычакалі-такі заробкаў, якіх ім не плацілі аж 4 месяцы. Гэта адбылося пасля таго, як урад распарадзіўся выдзеліць Гродзенскай вобласці на ліквідацыю запазычанасці па зарплаце з рэспубліканскага бюджэту беспрацэнтную пазыку ў памеры 2 837 мільёнаў рублёў. Прыкладна столькі ж выдаткавана з абласнога бюджэту, яшчэ частку грошай сельскія гаспадаркі атрымалі ў якасці льготных крэдытаў ад «Белаграпрамбанку» і перапрацоўчых прадпрыемстваў.

**НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»** 1700

 

# Затрыманыя незаконныя гандляры ўранам

Супрацоўнікамі ўпраўлення Камітэту дзяржаўнай бяспекі Беларусі па Мінску і Мінскай вобласці затрыманы чальцы міжнароднай злачыннай групы, якая спрабавала наладзіць канал незаконнага збыту на тэрыторыі краіны радыеактыўных матэрыялаў.

Як паведамілі БелаПАНу ў Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязей КДБ, пасля атрымання аператыўнай інфармацыі аб тым, што нейкія людзі актыўна шукаюць магчымасць збыту буйной партыі радыеактыўнага ўрану, у крымінальнае асяроддзе пад выглядам іншаземца, які жадае набыць радыеактыўныя матэрыялы, быў накіраваны супрацоўнік спецслужбаў. Агульны кошт запланаванай здзелкі быў вызначаны ў 250 тысяч даляраў ЗША за паўтара кілаграма ўрану. Каб быць упэўненымі ў тым, што прапанаваны на продаж матэрыял – сапраўды ўран, была праведзена кантрольная закупка 261 грама рэчыва, якое знаходзілася ў металічным стрыжні. Даследаванне паказала наяўнасць у ім урану-235 і ўрану-238. Паводле папярэдняга заключэння спецыялістаў, набыты цыліндр, як мяркуецца, з'яўляўся часткай цеплавылучальнага элемента рэактара тыпу РБМК.

Падчас куплі астатняй партыі тавару адзін з прадаўцоў быў затрыманы. У яго супрацоўнікі спецслужбаў канфіскавалі яшчэ чатыры ўранавыя стрыжні. Пазней падчас правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў былі затрыманы яшчэ пяць чалавек, датычных да незаконнага гандлю радыеактыўнымі матэрыяламі.

У дачыненні да ўдзельнікаў злачыннай групы ўзбуджана крымінальная справа па арт. 322 Крымінальнага кодэксу «Незаконнае набыццё, захоўванне, выкарыстанне, збыт або разбурэнне радыеактыўных матэрыялаў», які прадугледжвае пакаранне ў выглядзе штрафу ці арышту на тэрмін да шасці месяцаў ці абмежаванне свабоды на тэрмін да чатырох гадоў, або пазбаўленне волі на той жа тэрмін. Вядзецца следства.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ

**ЮСТЫЦЫЯ**

## Крымінальная справа на БМЗ

Упраўленнем па Гомельскай вобласці Камітэту па арганізаванай злачыннасці і карупцыі МУС узбуджана крымінальная справа ў дачыненні да службовых асоб Беларускага металургічнага заводу. Крымінальная справа ўзбуджана па частцы 3 артыкула 424 Крымінальнага кодэксу – злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі. Кола асобаў, якія маюць дачыненне да гэтага злачынства, не раскрываецца. Падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы стала тое, што ў снежні 2001 году з балансу прадпрыемства незаконна былі спісаны металічныя шпулькі, якія выкарыстоўваюцца для намотвання спружыннага дроту пры яго вырабе. Меркаваная сума шкоды – 111 млн. рублёў.

Ірына ШАНЦАВА

**ТЭХНІКА**

## Парад сеялак на снезе

Насуперак строгаму патрабаванню ў пачатковых падручніках для механізатараў, што нельга калечыць тэхніку для летняй працы выкарыстаннем яе ў мароз нават пры –5 градусах, усё ж дзесятак найноўшых корма- і збожжаўборачных камбайнаў былі дастаўленыя сваім ходам на своеасаблівы парад тэхнікі ў сельскагаспадарчым прадпрыемстве «Астрамечава» Брэсцкага раёну. 17 студзеня тут знаходзіўся з рабочай паездкай А.Лукашэнка, і па завядзёнцы аграрыі дэманстравалі сталёвыя мускулы сельгасвытворчасці.

Акрамя польскага камбайна «Бізон», нямецкага «Клаас» і ўніверсальнага энергетычнага сродку «Гомсельмаш», спешным чынам фарбавалі па-свежаму плугі, культыватары і сеялкі. Чыноўнікі агракомплексу давадзілі, што менавіта гэтыя агрэгаты ім па душы, але, як той казаў, не па зубах. У прыватнасці, нават СКП «Астрамечава», маючы ў 2001 годзе ад рэалізацыі прадукцыі 8 мільярдаў 67 мільёнаў рублёў грашовай выручкі (што, дарэчы, на 137,7 % больш за ўзровень папярэдняга году), здолела забяспечыць абнаўленне машынна-трактарнага парка толькі на 3%. За тэхніку, набытую па лізінгу, г.зн. за кошт доўгатэрміновай арэнды, найлепшая гаспадарка рэгіёну завінавацілася ўжо 883 мільёны рублёў і пакрысь гэтую запазычанасць не ў стане. Калі ж кіраўнікі вобласці заікнуліся пры Лукашэнку пра дэфіцыт 50 мільярдаў рублёў для пасяўной, цікавасць да параду сеялак на снезе страцілася.

Галіна БАРАВАЯ

## Ртуць у санаторыі

Пяць кілаграмаў ртуці вывезлі 15 студзеня ратавальнікі з санаторыя «Сасновы Бор», які месціцца ў пасёлку Сасновы Івацэвіцкага раёну Брэсцкай вобласці. Небяспечны метал быў знойдзены ў падвальным памяшканні дзеючай пры санаторыі сярэдняй школы, дзе займаюцца вучні, што адпачываюць у «Сасновым Бары». Пра здарэнне ў санаторыі паведамілі ў Івацэвіцкі райаддзел па надзвычайных сітуацыях.

Праз некалькі хвілін трое ратавальнікаў ужо працавалі на месцы, а з размешчаных над школьным падвалам спартзалы і некалькіх навучальных памяшканняў эвакуавалі 43 вучняў і 5 дарослых — выкладчыкаў і медычных работнікаў. У падвале ратавальнікі знайшлі прыбор, з якога выцякала ртуць. Ім аказалася прыстасаванне для праверкі ціску газу. Ніхто з абслуговага персаналу і адміністрацыі санаторыя так і не змог патлумачыць, як прыбор апынуўся ў падвале. Агульная колькасць вылітай ртуці склала каля 5 кілаграмаў.

Дзмітрый БЕЛЬСКІ

**ВАДА**

## Кожнаму раёну — пітную крыніцу

У адпаведнасці з рашэннем Мінгарвыканкаму ў кожным раёне Мінску да вясны 2002 году будуць адкрыты пітныя крыніцы з артэзіянскай вадой.

Як паведаміў БелаПАНу загадчык аддзелу камунальнай гаспадаркі і добраўпарадкавання гарвыканкаму Валерый Чачукевіч, ва ўсіх раёнах свідравіны ўжо прабураны, вядзецца афармленне крыніц і добраўпарадкаванне прылеглых да іх тэрыторый. На сённяшні дзень пітныя крыніцы адкрыты ў Цэнтральным (сквер на вуліцы Старавіленскай), Фрунзенскім (парк імя 60-годдзя ўтварэння СССР), Кастрычніцкім (каля кінатэатра «Электрон»), Маскоўскім (зялёная зона па вуліцы Бялецкага) і Першамайскім (мікрараён Уручча, паркавая зона мікрараёну Усход) раёнах Мінску. Паводле словаў Чачукевіча, кошт прац па будаўніцтве адной крыніцы складае каля 300 млн. рублёў.

Лавінія АРЭШКА

## Смерць ад выбуху газавага балону

24-гадовы зваршчык прадпрыемства «Аграпрамтэхсервіс» райцэнтру Буда-Кашалёва загінуў у выніку выбуху газавага балона 15 студзеня. Выбух адбыўся на малочнатаварнай ферме саўгаса «Галавачова», размешчанага непадалёку ад райцэнтру.

Прычынай выбуху стала парушэнне правілаў пажарнай бяспекі пры правядзенні газазварачных работ. Асколкі балона моцна траўмавалі зваршчыка. Ноччу 16 студзеня ён памёр.

Дзмітрый БЕЛЬСКІ

## Раёны перспектыўнага турызму

Для далейшага развіцця турызму ў Беларусі міністэрства эканомікі прапанавала ўключыць у пералік перспектыўных раёнаў развіцця турысцкай інфраструктуры шэсць раёнаў чатырох абласцей краіны.

Гэта Камянецкі раён Брэсцкай вобласці, Браслаўскі раён Віцебскай вобласці, Карэліцкі і Навагрудскі раёны Гродзенскай вобласці, Нясвіжскі і Мядзельскі раёны Мінскай вобласці. У пералік уключаны таксама горад Мінск.

Вольга ПАЛОНСКАЯ

**НАШЫ ВЁСКІ**



Фота Ул. ШЛАПАКА

Як смачна п'ецца калодзежная вада!

**АРСЕНАЛ**

## Знішчым мільёны мін

«Беларусь гатова падпісаць Міжнародную канвенцыю аб забароне супрацьпяхотных мін. Аднак краіне неабходны сродкі для ліквідацыі вялікіх запасаў гэтай зброі, што засталіся нам ад былога СССР», — заявіў 16 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску начальнік інжынерных войскаў Узброеных сіл палкоўнік Сяргей Лучына. Паводле яго словаў, пытанне аб далучэнні да канвенцыі «можа вырашыцца ў найбліжэйшы час».

Лучына паведаміў, што па запасах супрацьпяхотных мін Беларусь знаходзіцца на 7-м месцы ў свеце, усяго на складах міністэрства абароны іх знаходзіцца 4,5 млн. Далучэнне да канвенцыі, паводле інфармацыі Лучыны, цягне за сабой прынцыпе Беларуссю абавязацельства ліквідаваць запасы мін на працягу 4 гадоў. «Кошт ліквідацыі адной міны вагаецца ад 1 да 12 даляраў. Таму галоўная праблема — у грашах», — сказаў ён. Акрамя таго, пры падрыве некаторых тыпаў мін (напрыклад, ПФМ-1) вылучаюцца ядавітыя рэчывы (сінільная кіслата і інш.), таму іх ліквідацыя «вельмі небяспечная» для асабовага складу інжынерных войскаў. Пры ліквідацыі такіх мін ва Украіне 10 чалавек атрымалі «стойкія псіхічныя расстройствы» і былі камісаваныя з арміі.

Міжнародная супольнасць, на думку Лучыны, можа дапамагчы Беларусі ў ліквідацыі запасаў супрацьпяхотных мін, аднак дагэтуль «усе толькі абяцаюць, але ніхто нічога не робіць». Між тым, паводле словаў палкоўніка, у *NATO* існуе спецыяльны фонд, які дапамагае ў ліквідацыі запасаў мін.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, Лучына паабяцаў, што ўлетку інжынерныя войскі прадэманструюць грамадскасці «масавае знішчэнне супрацьпяхотных мін».

Юрый КАСЬЯНАЎ

**СТАСУНКІ**

## У Беларусь не пускаюць нават з візамі

Кіраўнікі ўсіх партый, што маюць прадстаўніцтва ў парламенце Швецыі, выступілі з адкрытым лістом, у якім заклікалі ўлады Беларусі змяніць візавую палітыку. «Без задавальняючага тлумачэння некалькім грамадзянам Швецыі і іншых краін было адмоўлена ва ўездзе ў Беларусь. Некаторыя з іх нават былі вымушаныя вяртацца з мінскага аэрапорта, нягледзячы на тое, што іх візы былі ў парадку», – гаворыцца ў лісце, які надрукавала 16 студзеня шведскае выданне *Aftonbladet*.

У публікацыі адзначаецца, што ва ўездзе адмаўлялі прадстаўнікам няўрадавых арганізацый, якія маюць партнёраў у Беларусі, і журналістам вядучых шведскіх газет. Шведскія палітыкі лічаць, што гэтыя адмовы маюць дзве мэты: перакрыць кантакты грамадзянскай супольнасці Беларусі з замежнымі калегамі і не даць замежнай прэсе магчымасці працаваць у Беларусі.

«Апошнім часам у Заходняй Еўропе вядзецца шмат размоў аб спыненні ізаляцыі Беларусі, аб неабходнасці дыялогу і кантактаў з уладамі і палітычнымі лідэрамі краіны, — гаворыцца ў лісце. — Але ў той час, як мы адчыняем новыя дзверы, Мінск адказвае на гэта, зачыняючы іншыя. Такое стаўленне, нарэшце, давядзе сваю самаразбуральнасць, і яно служыць толькі ўзмацненню рэпутацыі Беларусі як сумнага вынятку ў Еўропе».

Алесь АБРАМОВІЧ

**СЛЕДСТВА**

## Дырэктару гомельскага радыёзаводу пагражае 8 год турмы

Упраўленне Следчага камітэту МУС Беларусі па Гомельскай вобласці вынесла абвінавачанне дырэктару Гомельскага радыёзаводу Анатолю Кірыкаву.

Яму ставіцца ў віну злоўжыванне службовым становішчам, якое пацягнула за сабою значную шкоду прадпрыемству. Следства не выключае, што Кірыкаў вінаваты ў заключэнні стратнага контракту з замежнай фірмай, у выніку чаго радыёзавод недалічыўся 87 млн. рублёў. Калі віна дырэктара будзе даказана, ён можа атрымаць да 8 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці (частка 3 артыкула 424 Крымінальнага кодэксу).

Паводле звестак, атрыманых БелаПАНам ад крыніцаў на радыёзаводзе, гаворка ідзе аб кантракце з латвійскай фірмай «Саламандра Тур» на пастаўку ў Германію набораў мэблі (стол і дзве лавы) для півнога бару. У Германію былі адпраўлены дзве фуры па 384 наборы. Пры сабекошце каля 200 нямецкіх марак радыёзавод прадаў наборы па 55 марак. Розніца ў цане, відаць, і стала фігураваць у матэрыялах следства як шкода, нанесеная заводу. Паводле словаў крыніцаў, дырэктар узяўся за выкананне гэтага заказу з мэтай загрузіць магутнасці прадпрыемства, а страты мог кампенсаваць за кошт прыбытку ад рэалізацыі іншых кантрактаў.

Пасля арышту 5 студзеня Кірыкаў працягвае знаходзіцца пад вартай.

БелаПАН

# Калгасны аброк «Фальксвагенамі»

Мінулай восенню Гомельскі аблвыканкам падараваў жанчынам-кіраўнікам калгасаў і саўгасаў аўтамашыны «Ніва». 29 старшыням і дырэктарак — і столькі ж аўтамашын у падарунак ад улады. Так бы мовіць, для ўдалай язды па вybоістых дарогах-пуцявінах.

Але не прайшло і паўгода, як вясковыя кіраўнікі ці то ў адказ, ці з прычыны вялікай сімпатыі пачалі саджаць начальства на іншамаркі. Вядома, за калгасныя сродкі. У прыватнасці, калгас «Беларусь», якім кіруе Раіса Буднік, купіў за 17 мільёнаў рублёў легкавік «Фальксваген» і перадаў (трэба ж даўмецца!) у арэнду Добрушскаму райвыканкаму. Мала таго, што ў калгаса даўгоў, за якія і дзесяцігоддзя «Фальксвагенамі» не разлічышся, дык ён яшчэ на пачатку студзеня застаўся вінен вяскоўцам і грошы, і цукар за восеньскую ўборку салодкіх буракоў. Больш таго, дзеці калгаснікаў у вёсцы Крупец вучацца ў непрыстасаваных памяшканнях, бо ў школе правалілі дах.

Шчодрасць калгаса ў дачыненні да раённай «вертыкалі» стане больш зразумелай, калі ўлічыць, што старшыня райвыканкаму Уладзімір Буднік – законны муж старшыні калгасу «Беларусь» Раісы Буднік. Ідучы з калгасу «на раён», ён і «пакінуў» жонцы гаспадарку. Цяпер, відаць, жонка вырашыла «падмасліць» мужа-начальніка.

Зрэшты, у Брагінскім раёне, як высветліў дзяржкантроль, без усялякіх сваяцкіх повязяў тры калгасы скінуліся на легкавік упраўленню сельскай гаспадаркі і харчавання. Глядзіш, і штo-небудзь разумнае прывязуць у вёску.

Мазырскі райвыканкам у зборы даніны з гаспадарак не заўважаны. Ён проста ўзяў і даткаваў 50 тысячаў даляраў на абнаўленне аўтатранспарту для трох намеснікаў старшыні райвыканкаму – няхай сабе лётаюць па раёне са свістам. Наогул у мінулым годзе свае патрэбы ў бюджэтных сродках райвыканкам «урэзваў" так старанна, што з запланаваных 14 мільёнаў рублёў яны... выраслі ў дзесяткі разоў. Спачатку выканкам прыбавіў 35 мільёнаў рублёў на мэблю і абсталяванне, пасля ў 5 разоў перавысіў суму, прызначаную на капрамонт. Нездарма ж прымаўка: усё вакол – калгаснае, усё вакол – маё.

Анатоль ГАТОЎЧЫЦ

# Прадукты патаннеюць праз месяц?

Беларуская сельскагаспадарчая прадукцыя на сённяшні дзень каштуе вельмі дорага. Гэта публічна прызнаў учора Аляксандр Лукашэнка, выступаючы на нарадзе па праблемах аграпрамысловага комплексу. Ён даручыў на працягу месяца распрацаваць комплекс захадаў, якія б дазволілі зрабіць прадукцыю беларускага АПК больш таннай.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Нарада праходзіла ў аграпрамысловай гаспадарцы «Астрамечава». На ёй А.Лукашэнка зазначыў: неабходнасць прыняцця экстранных захадаў па зніжэнні коштаў на прадукты харчавання тлумачыцца ўзмацненнем канкурэнцыі. Ужо цяпер на тэрыторыю Беларусі ўвозіцца шмат прадуктаў з-за мяжы. Гэтая прадукцыя часцяком больш танная і больш якасная, чым аналагічная беларуская.

«Канкурэнцыя такая, што праз рэгуляванне цэнаў праблемы не вырашыш», адзначыў беларускі кіраўнік. Аднак можа так атрымацца, што беларускае сельскагаспадарчае чынавенства не прыдумае іншага шляху барацьбы з замежнымі канкурэнтамі. Сапраўды, паставіць «жалезную заслону» расійскім ёгуртам і малдаўскім яблыкам куды прасцей, чым займацца грунтоўным рэфармаваннем беларускіх калгасаў, саўгасаў і заводаў. Які шлях абяруць беларускія харчовыя рэфарматары, мы вельмі хутка даведаемся. Бо самы яскравы паказчык рэформаў АПК – гэта нашыя крамы. Дастаткова будзе параўнаць цэны сёння і праз месяц-два, каб зразумець сапраўдны кірунак «сельскагаспадарчай рэформы».

**Ірына СТАРЦАВА**

# Адкрыты ліст калектыва МТЗ да Лукашэнкі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

«Падчас распачатага следства нам назвалі два кантракты з фірмамі «Рывертэкс» і «Гру Трэйдынг» за 1998 год на пастаўку металапракату і камплектуючых вырабаў, — гаворыцца далей у лісце. — Незразумела, пры чым тут 1998 год, калі па выніках праверкі 12 ліпеня 2001 г. ніякіх падставаў для прыцягнення Лявонава М.В. да крымінальнай адказнасці не было?» Пры гэтым аўтары ліста сцвярджаюць, што «заключэнне гэтых кантрактаў было прадыктавана эканамічнай мэтазгоднасцю, і ніякай шкоды завод не панёс». «Абвінавачанне пракуратуры заснавана на тым, што перавага пры заключэнні кантрактаў была аддадзена вышэйзгаданым фірмам, у выніку чаго металапракат і камплектуючыя былі закуплены заводам па вышэйшай цане, – гаворыцца далей. – Але вышэйшая цана азначае і больш высокую якасць, больш высокую надзейнасць, больш высокія іншыя спажывецкія ўласцівасці – усё тое, што неабходна для вытворчасці высокаканкурэнтнай прадукцыі. Лічым, што падыходзіць да гэтых пытанняў чыста па-аматарску, механічна, пераконваючы нас набываць матэрыялы толькі па самых нізкіх цэнах – гэта справа непрафесіяналаў. Пры цяперашняй эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы мы проста не маем права падыходзіць да такіх пытанняў непрафесійна. Іх павінны вырашаць спецыялісты ў галіне трактарабудавання, а не пракуроры».

Сітуацыя з Міхаілам Лявонавым не садзейнічае падтрыманню спрыяльнага іміджу МТЗ на сусветным рынку, упэўнены аўтары ліста. Менавіта з яго імем яны звязваюць усе дасягненні прадпрыемства ў апошнія гады. Разам з тым у пасланні зазначаецца, што вызваленне ад пасады кіраўніка МТЗ не прывяло да паляпшэння працы прадпрыемства, болей таго, можа прывесці да яе дэстабілізацыі. Таму працоўны калектыў не бачыць прычын для арышту свайго былога гендырэктара. «Ён валодае такімі каштоўнымі для кіраўніка якасцямі, як высокі прафесіяналізм, бліскучае веданне эканомікі, незалежнасць меркавання, адсутнасць дагаджання, – гаворыцца ў лісце. – Гэтыя якасці асабліва неабходныя кіраўнікам у перыяд, калі магчымая прыватызацыя вядучых беларускіх прадпрыемстваў. МТЗ уяўляе ў гэтых адносінах велізарны інтарэс і, у першую чаргу, для расійскіх інвестараў. А можа быць расчышчаецца дарога фінансавым акулам да «прыватызацыі» нашых прадпрыемстваў? Спадзяёмся, што гэта не так».

**БелаПАН**

# Расія і Польшча дамовіліся

У заключны дзень візіту ў Польшчу Уладзімір Пуцін правёў перамовы з польскім прэм'ерам Лешэкам Мілерам.

Падрабязнасцяў пра перамовы Пуціна і Мілера няшмат. Прэс-сакратар расійскага прэзідэнта Аляксей Громаў паведаміў, што Пуцін і Мілер адзначылі, што «эканамічныя стасункі абедзвюх краін не павінны знаходзіцца пад уплывам кан'юнктурных фактараў», і вырашылі раз у паўгода праводзіць сустрэчы прэм'ер-міністраў.

Такая актывізацыя, аднак, сведчыць пра тое, што бакі ўсё ж дасягнулі дамоўленасці. Галава «Газпраму» Аляксей Мілер, які ў гэтым не сумняваўся, яшчэ напярэдадні вечарам упэўнена заявіў, што ў ключавым для гэтага візіту Пуціна ў Польшчу пытанні – газавым – паразуменне дасягнута.

Эканамічныя інтарэсы ўсё ж пераважылі ў палякаў любоў да Украіны, і яны далі «дабро» на будаўніцтва цераз іх тэрыторыю газаправоду ў Еўропу.

Дамоўленасць з палякамі адносна будаўніцтва газаправоду ў абход Украіны, якая крадзе расійскі газ, абышлася нават без перагляду газавага пагаднення 1993 году, якім палякі былі не вельмі задаволеныя.

Як паведаміў Аляксей Мілер, «бакі пацвердзілі, што надалей наша супрацоўніцтва ў газавай сферы будзе будавацца на грунце дамовы ад 1993 году». Гэта, па словах галавы «Газпраму», прынцыпова важны момант. Апрача таго, як заявіў Мілер, палякі не проста пагадзіліся будаваць газаправод, але і «пацвердзілі фінансаванне ў поўным аб'ёме сваёй долі па гэтым праекце» і нават паабяцалі «на працягу месяца зрабіць прапановы па аптымізацыі рэжыму падаткаабкладання гэтага праекту». Зрэшты, без саступак у другіх сферах эканомікі напэўна не абышлося. Палякаў вельмі непакоіць велізарны (каля 4 млрд. даляраў у год) адмоўны для Польшчы гандлёвы баланс з Расіяй. Перад візітам Пуціна ў Варшаву шэраг назіральнікаў меркавалі, што прэзідэнт зможа выкарыстоўваць гэты козыр на перамовах па газавай праблеме, паабяцаўшы, напрыклад, прыярытэт польскім таварам.

**Антон ПАЛЯВЫ**

# Алексій II гатовы прыняць Папу рымскага

Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II не выключае магчымасці візіту Папы рымскага ў Расію «пры пэўных умовах». Пра гэта патрыярх сказаў у сераду журналістам, аднак падкрэсліў, што «на сёння гэта немагчыма, бо ідзе рэлігійная экспансія на тэрыторыі Расіі». Алексій II упэўнены, што цяпер у Расіі існуе «празелітызм, каталікі спрабуюць навярнуць у сваю веру людзей, якія хрышчаны і выраслі ў праваслаўі». «Калі нават візіт адбудзецца, то не будзе маёй сустрэчы з Папам рымскім», — заявіў Алексій II. Такая нечаканая згода дапусціць у Расію Папу рымскага выклікана заявай У.Пуціна, што ён даўно запрасіў бы рымскага пантыфіка, але гэтаму перашкаджае непрымірымая пазіцыя маскоўскага патрыярха.

Калі адбудзецца візіт папы ў Расію, дык, відаць, і кіраўніцтва Беларусі перастане чыніць перашкоды наведанню Янам Паўлам II нашай краіны і сустрэчам ачольніка каталіцкай царквы з вернікамі.

**К.М.**

# Навіны інтэграцыі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Ён нагадаў, што па выніках мінулага году супольны тавараварот можа скласці каля 6 млрд. даляраў. У шэрагу асноўных галінаў для супрацоўніцтва У.Пуцін назваў транспарт, энергетыку, паліўны сектар, супрацоўніцтва ў навуцы і культуры, рэгіянальныя і памежныя стасункі. Пра Беларусь у гэтым кантэксце не згадвалася. Пры гэтым Пуцін зазначыў, што ўваход Польшчы ў Еўрасаюз не стане перашкодай паглыбленню і паляпшэнню расійска-польскіх адносінаў, паколькі абедзве краіны, абодва народы «маюць узаемную цікавасць адзін да аднаго».

Адказваючы на пытанне «Інтэрфаксу», якім адкрылася прэс-канферэнцыя лідэраў двух краін, У.Пуцін падкрэсліў, што развіццё новых стасункаў паміж Расіяй і Польшчай «павінна было саспець і саспела». Ён падкрэсліў, што ў будучыні абедзве дзяржавы маюць намер дзейнічаць на аснове «раўнапраўнага партнёрства».

Кажучы пра тое, што гэткае партнёрства выгаднае і Польшчы, і Расіі, прэзідэнт адзначыў важнасць супрацоўніцтва ў сферы бяспекі і стабільнасці. Ён падкрэсліў, што ўваход Польшчы ў *NATO* і наступны ўваход гэтай краіны ў ЕС можа стацца дадатковым фактарам для паглыблення супрацоўніцтва Расіі з гэтымі структурамі. Кажучы пра выгаду такога курсу для простых людзей, У.Пуцін адзначыў, што кошт газу, які Польшча атрымлівае з іншых краін, на 25–30% вышэйшы за расійскі.

«Палякі павінны бачыць гэта», – сказаў прэзідэнт РФ і падкрэсліў, што кіраўнікі дзвюх краін падыходзяць да фармавання ўсёй сістэмы новых адносінаў РФ з Польшчай комплексна.

Абодва прэзідэнты заявілі пра асаблівыя «давер, адкрытасць, канструктыўнасць і зычлівасць» гэтых перамоваў. Пуцін і Квасьнеўскі паведамілі, што ў прыватных размовах яны перайшлі на «ты». Пры гэтым Пуцін сказаў, што яму «імпануе мажлівасць адкрыта абмяркоўваць практычна любую тэму з прэзідэнтам Польшчы і падабаецца канструктыўны падыход Квасьнеўскага да кожнай праблемы». Пра пераход на «ты» з Александрам Лукашэнкам У.Пуцін ніколі не згадваў.

Прэзідэнт Польшчы, сказаўшы шмат добрых словаў на адрас Пуціна і пацвердзіўшы надзвычай сяброўскі характар саміту, «павіншаваў Расію з такім прэзідэнтам». Ён запрасіў Пуціна «часцей наведваць Польшчу». У.Пуцін адказаў, што пастараецца гэта зрабіць.

**УА «ІНТЭРФАКС»**

# МУС рапартуе пра поспехі

*У мінулую сераду міністр унутраных справаў Беларусі Уладзімір Навумаў адрапартаваў журналістам пра крымінальныя вынікі мінулага году. Паводле ягоных словаў, Беларусь – адна з самых бяспечных краінаў, дырэктараў будуць саджаць і далей, а пошук Дзмітрыя Завадскага часова прыпынены.*


Фота Ул.ШЛАПАКА

## Злачынстваў стала меней

Як паведаміў Уладзімір Навумаў, летась у Беларусі было зарэгістравана 112,2 тысячы злачынстваў. Гэта на 23 тысячы меней, чым у 2000 годзе. Аднак, як прызнае сам міністр унутраных справаў, гэта адбылося не толькі з-за таго, што красці і забіваць сталі меней. З 1 студзеня 2001 году пачалі сваё дзеянне новыя Крымінальны, Крымінальна-працэсуальны і Крымінальна-выканаўчы кодэксы. Яны замянілі сабой крымінальнае заканадаўства, якое прымалася яшчэ на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Дзякуючы гэтаму некаторыя дзеянні, якія разглядаліся як злачынствы, больш імі не з'яўляюцца. З іншага боку, у новым КК значна пашырыўся спіс дзеянняў, якія кваліфікуюцца як злачынствы і якія вымагаюць крымінальнай адказнасці – пераважна ў эканамічнай галіне.

Як факт, што сведчыць на карысць МУС, была прыведзеная статыстыка: узровень злачыннасці ў Беларусі паводле разліку на 100 000 насельніцтва – адзін з самых нізкіх. Ён склаў крыху болей за 1 000. Гэта значыць, што патэнцыйным злачынцам вакол нас можа быць кожны дзевяносты.

Апроч таго, міністр унутраных справаў адзначыў, што амаль на 37% у параўнанні з 2000 годам скарацілася колькасць цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў. Нязначна скарацілася колькасць наўмысных забойстваў і цяжкіх цялесных пашкоджанняў, больш чым на 20% упала колькасць зарэгістраваных згвалтаванняў.

Махляры і злодзеі таксама адчуваюць сябе менш упэўнена. Паводле МУСаўскай статыстыкі, крадзяжоў стала меней на 14%, вымагальніцтваў – на траціну, больш чым удвая скарацілася колькасць махлярстваў.

Пры гэтым беларускае МУС запісвае ў свой актыў значныя поспехі ў раскрыванні крымінальных справаў. Так, раскрывальнасць забойстваў знаходзіцца на ўзроўні 90%, нанясення цяжкіх цялесных пашкоджанняў – на 84%. Раскрываецца 9 з 10 згвалтаванняў і 6 з 10 разбояў і рабункаў.

## Злачынцаў выпускаюць на волю

Як паведаміў У.Навумаў, у сувязі з увядзеннем новага крымінальнага заканадаўства летась было перагледжана каля 25 000 крымінальных справаў. У выніку, каля 2,5 тысяч асуджаных выпусцілі на волю – паводле новага закону, яны ўжо адседзелі максімальны тэрмін або нават не лічацца больш злачынцамі (крымінальны артыкул, па якім яны былі асуджаныя, скасаваны). 2 тысячам асуджаных скарацілі тэрміны зняволення. Яшчэ для 10 тысячаў перагледзелі ўмовы ўтрымання, змякчыўшы рэжым.

Пры гэтым міністр зазначыў, што не лічыць, быццам бы ўсе зняволеныя, якіх летась выпусцілі на волю, цвёрда сталі на шлях выпраўлення. Ён нагадаў, што больш за 25% арыштаваных у 2001 годзе за ўчыненне злачынстваў ужо раней мелі канфлікт з законам.

## Няхай дырэктары трымцяць!

У адказ на просьбу пракаментаваць апошнюю кампанію па затрыманні выбітных прадстаўнікоў дырэктарскага корпусу Уладзімір Навумаў адзначыў, што арышты працягнуцца і далей. Яны нават могуць перавысіць пастаўленую Аляксандрам Лукашэнкам «норму» ў 15 дырэктараў-карупцыянераў.

«Хто нармальна працуе – той не трымціць. Але хто працуе для самога сябе на дзяржаўнай маёмасці, няхай сабе трымціць!», — заявіў міністр унутраных справаў. Ён заявіў, што ў Беларусі ёсць вельмі шмат дырэктараў, якім удаецца працаваць, не парушаючы заканадаўства, і на іхнім фоне затрыманні некалькіх нячыстых на руку кіраўнікоў амаль незаўважныя.

Ён нагадаў, што летась МУС удалося раскрыць дзве злачынныя групоўкі, што наносілі шкоду светлагорскаму прадпрыемству «Хімвалакно». Пры гэтым, па словах У.Навумава, агульны памер шкоды ацэньваецца ў 4 мільёны даляраў. «Чаму вы пра гэта не пішаце?» – запытаўся міністр.

## Завадскага ніхто не шукае

Уладзімір Навумаў паведаміў таксама, што цяпер пошукамі аператара *ОРТ* Дзмітрыя Завадскага ніхто не займаецца.

Нагадаем, што Д.Завадскі таямніча знік на шляху ў Нацыянальны аэрапорт «Мінск» 7 ліпеня 2000 году. Ад таго часу ніякіх звестак пра яго няма. Уцекачы на Захад, КДБшнік Генадзь Угляніца і лідэр арганізацыі «Край» Андрэй Жарнасек цвердзяць, што тэлеаператар быў забіты байцамі Спецыяльнага атраду хуткага рэагавання, якім кіраваў падпалкоўнік Дзмітрый Паўлічэнка – цяперашні камандзір вайсковай часці 3214 унутраных войскаў МУС. Аднак афіцыйна выкраданне Д.Завадскага ставяць у віну зусім іншым людзям – былому спецназаўцу Валерыю Ігнатовічу і яшчэ тром ягоным саўдзельнікам. «Крымінальны квартэт» абвінавачваецца ва ўчыненні шэрагу забойстваў і рабункаў. Пры гэтым следства не мае адказу на пытанне пра цяперашняе месца знаходжання расійскага журналіста, а некаторыя ўдзельнікі працэсу Ігнатовіча адзначаюць, што ў следства няма і доказаў выкрадання Д.Завадскага менавіта гэтымі людзьмі.

Як патлумачыў міністр унутраных справаў, пакуль ідзе працэс над гэтымі «выкрадальнікамі» (а пачаўся ён 24 кастрычніка мінулага году і будзе цягнуцца яшчэ доўга), пошукі Д.Завадскага прыпыненыя.

«Мне вельмі хацелася б, каб суд устанавіў, што гэта менавіта яны выкралі», — адзначыў у гэтай сувязі У.Навумаў. І дадаў, што як толькі працэс скончыцца, то, незалежна ад ягоных вынікаў, следства па пошуку Д.Завадскага будзе працягнутае.

Праўда, часу страціцца шмат – затое ўсё будзе па законе.

Што да астатніх «гучных справаў» – знікненняў палітычных апанентаў Аляксандра Лукашэнкі Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара, а таксама Анатоля Красоўскага, то, па словах У.Навумава, гэтыя справы вядуцца не ягоным ведамствам, і, адпаведна, за іхні ход ён не адказвае.

«У спісе злачынстваў, якія стаяць на асаблівым кантролі ў прэзідэнта, 84 справы. Яго адкрывае крадзеж у буйных памерах у Асіповіцкім раёне. Вінаватых у гэтым мы шукаем ад 1994 году», — зазначыў міністр.

І, паколькі хваля пытанняў пра знікненні палітыкаў не спынялася, У.Навумаў заявіў, што летась у вышук быў пададзены 6 231 чалавек. З іх 5 186 знайшліся. Але лёс больш як тысячы беларускіх грамадзянаў застаецца невядомым. І, маўляў, чаму міністр унутраных справаў мусіць на іх усіх забыцца і займацца толькі тымі 2-3 асобамі? — задаў ён рытарычнае пытанне.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# «Ісус нарадзіўся на 3000 год раней»

Лагары Пужол так моцна любіў Ісуса, што гэтае пачуццё прывяло яго ў семінарыю ў Віке (Барселона), там ён правёў сем гадоў і стаў святаром. Але яму здалося неабходным ведаць пра Ісуса яшчэ болей, ведаць усё, і таму ён падаўся ў Страсбургскі ўніверсітэт. Ён стаў тэолагам, на працягу дзесяці гадоў вывучаў біблійныя і егіпецкія тэксты, у Сарбоне вывучыў дэматычнае пісьмо, каб мецъ магчымасць чытаць тэксты ў арыгінале. Адкрыўшы, што евангелісты капіявалі егіпецкія тэксты, ён быў узрушаны гэтай неспадзяванкай так моцна, што захвараў. Ён страціў веру, адмовіўся ад сану. Ажаніўся з сваёй аднакурсніцай, і разам яны напісалі кнігу «Ісус, 3000 гадоў да Хрыста. Фараон з імем Ісус». Лагары Пужол кажа: «У сапраўднасці – гэта даследаванне па параўнальным літаратуразнаўстве...» Карэспандэнт іспанскай газеты *La Vanguardia* перад святам Нараджэння Хрыста ўзяў у Лагары Пужола інтэрв'ю.

— Раство: Сын Божы нарадзіўся на свет. Але не 2000 гадоў назад.

***— У календары ёсць памылка гады на два-тры, так?***

— Не, я маю на ўвазе іншае: размова ідзе пра пяць тысяч гадоў! Ідэя Сына Божага нарадзілася за тры тысячы гадоў да Хрыста...

***— Пра якога Сына Божага Вы кажаце?***

— Пра фараона! Гаворка ідзе пра постаць фараона Старажытнага Царства Егіпту: ён лічыўся «сынам Бога».

***— Нешта цяжка ўявіць сувязь паміж фараонам і Ісусам.***

— Яна простая. Ісусу прыпісвающа выпадкі жыцця і некаторыя рысы, характэрныя для фараона.

***— Магчыма, супадзенні існуюць, але...***

— Паралелям канца-краю няма.

***— Напрыклад?***

— Ужо за 3000 гадоў да новай эры (нараджэння Хрыста) фараон лічыўся сынам бога, як потым і Ісус. Фараон быў адначасна і чалавекам, і боствам, як потым і Ісус. Фараон быў пасярэднікам паміж багамі і людзьмі, як потым і Ісус... Фараон уваскрасае, як потым і Ісус. Фараон узносіцца на нябёсы, як і Ісус...

**Даведка**

Лагары Пужол, тэолаг, знаўца біблійных і егіпецкіх тэкстаў.

«Мне 62 гады, і я нарадзіўся ў Тарадэле (Барселона). Быў святаром, цяпер займаюся тэалогіяй і даследую егіпецкія крыніцы Евангеляў. 23 гады назад я ажаніўся з Клод Брыжыт Карсен'як, і ў нас двое дзяцей. Я – агностык. Лічу, што евангелісты «напісалі» жыццё Ісуса, выкарыстаўшы егіпецкія тэксты».

***— Ісус – клон фараона? Хто ў гэта паверыць?***

— Вы ведаеце малітву, пра якую кажуць, што яе стварыў Ісус і навучыў нас, — «Ойча наш»?

***— Зразумела: «Ойча наш, каторы ёсць на небе! Хай свяціцца імя Тваё...»***

— Гэтая малітва знаходзіцца ў егіпецкім тэксце, датаваным 1000 годам да новай эры, вядомым як «Малітва невідушчага»! У тым жа самым тэксце ёсць тое, што ў далейшым стане Дабрадзецем Ісуса. Паслухайце мяне: уся тэалогія Старажытнага Царства выявіцца потым у постаці Ісуса.

***— Няўжо на самой справе так?***

— І не толькі гэта: таксама ў Стары Запавет (600 гадоў да н.э.) увезены манатэізм фараона Эхнатона (Аменхотэпа IV, 1360 год н.э.).

***— Але Ісус, яго боская сутнасць...***

— Тэагамія (боскі шлюбны саюз) паходзіць з Егіпту: царыца зачынае ад бога новага фараона. Існуе адзін егіпецкі тэкст, напісаны дэматычным пісьмом і датаваны 550 годам да н. э., «Міф Сатні», які апавядае наступнае»: «цень бога паўстала перад Махітускет і абвясціла: будзе ў цябе сын і названы ён будзе Са-Асірыс!» Гэта нічога вам не нагадвае?

***— Анёл Дабравесця, Марыя...***

— Сказаць вам, што азначае імя Махітускет? «*Дабрадатная*»! А Сі-Асірыс азначае «сын Асірыса», гэта значыць «сын бога».

***— А хто такі Сатні з гэтага падання?***

— Муж Махітускет. «Сатні» азначае «той, хто шануе Бога»; таксама як потым шанаваць яго будзе Іосіф, названы ў Евангеллі «набожным».

***— Потым Ісуса захоча забіць Ірад...***

— У егіпецкай міфалогіі Сет хоча забіць немаўлятку Гора, і яго маці, Ісет, вымушана ўцякаць з ім: таксама, як Святая сям'я ўцякае ў Егіпет.

***— А золата, ладан, міра, гэта што?***

— Егіпцяне ставіліся да іх як да сімвалічных увасабленняў бога Ра: золата было яго плоцю, ладан – яго пахам, міра – яго парасткамі.

***— А пастухі?***

— Выява клапатлівага пастуха сотні разоў сустракаецца ў егіпецкіх храмах!

***— А вось абразанне?***

— Гэта быў рытуал, распаўсюджаны сярод егіпецкіх жрацоў. У сказанні Сатні 12-гадовы Сі-Асірыс спрачаецца з мудрацамі з храма. Падобна аб Ісусу нам апавядае Евангелле.

***— А што Вы можаце сказаць пра хрышчэнне Хрыста?***

— Паглядзіце на гэтую выяву святара: ён выконвае гэты абрад над фараонам у водах Ніла...

***— Сапраўды дзіўна...***

— Усё гэта ёсць у старажытных папірусах, егіпецкіх барэльефах і малюнках. Паглядзіце на гэты, датаваны 300 годам да н.э. Пталемей стаіць насупраць Ісет, а яна кажа яму: «Я падарую табе ўсе царствы Зямлі». У Евангеллі Сатана будзе спакушаць Ісуса гэтай жа фразай, слова ў слова!

***— А што вы скажаце пра цуды, якія паказаў Ісус?***

— У грабніцы Пахіра (1500 год да н. э.) знаходзіцца лава, роспіс якой паказвае ператварэнне фараонам вады ў віно. Гэта той цуд, што паказаў Ісус на вяселлі ў Кане Галілейскай! А калі палічыць збаны, іх будзе шэсць.

***— І што?***

— У цудзе, створаным Ісусам, жбаноў таксама было шэсць. Тэолагі да сёння пытаюцца, чаму менавіта шэсць? Таму, што яны былі запазычаны з егіпецкага падання.

***— Фараон таксама ствары́ў цуд з хлебам і рыбай?***

— Не, гэта зрабіў бог Себек, як пра гэта апавядаецца ў «Тэкстах пірамідаў», датаваных 3000 годам да н. э. Себек – гэта боства-кракадзіл, ён раздаваў рыбу і хлеб людзям, што жылі ў Фаюмскім аазісе... І не дзіўна таму, што ён хадзіў па вадзе!

***— Так, разумею...***

— Займальная дэталь: даследчыкі зрабілі такое адкрыццё – у гатычных роспісах са сцэнамі чароўнай лоўлі рыбы апосталамі намаляваныя рыбы – гэта *tilapias niloticas*, від, які жыве толькі ў Ніле!

***— Ну, а яшчэ якая-небудзь паралель?***

— Міф аб Сінуху (2000 год да н. э.). Гэта прынц, які баіцца валадарыць, сыходзіць з палацу ў пустыню, дзе жыве сярод качэўнікаў і бядуе.

***— Але Ісус трыумфальна ўваходзіць у Ерусалім!***

— Так, як, заўважце, «цар»... і вярхом на асле. Гэта значыць, як пераможца зла: аслом у Егіпце лічыўся Сет, бог, які забіў Асірыса, сын якога – Гор – абярнуў яго ў асла і сеў на яго верхам.

***— А Тайная вячэра?***

— Асірыс, бог-апякун пасеваў, штогод паміраючы, даваў егіпцянам магчымасць есці сваю плоць (хлеб). А ў «Тэкстах пірамідаў» ён таксама называецца «Валадаром віна». Асірыс дае папіць сваёй крыві з кубку Ісет, каб тая пазнала яго пасля смерці!

***— Уваскрошанне і ўзнясенне Ісуса – гэта таксама калькі з егіпецкай міфалогіі?***

— Я лічу так: існаваў рытуал «уваскрошання» мёртвага фараона, у ім бралі ўдзел жанчыны, у выніку чаго ўладар «узносіўся на неба».

***— Гэтыя мадэлі рэпрадукаваў на свядомасць сам Ісус, ці яны былі ўведзены евангелістамі потым?***

— Мой тэзіс іншы: Евангеллі былі складзеныя святарамі-эрудытамі, іудзеямі і егіпцянамі, з храму Серапіса ў Сакары (Егіпет), яны слова ў слова перадалі змест егіпецкіх тэкстаў. Усё гэта я падрабязна перакажу ў сваёй кнізе...

*La Vanguardia* (Іспанія)



## «Мемарыял пралітай крыві»

Беларускі камітэт міру (БКМ) прапануе ўзвесці ў Курапатах «Мемарыял пралітай крыві».

Старшыня БКМ Іван Кірычэнка зазначыў, што пытанне ўвекавечання памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій у Курапатах ператварылася ў шматгадовую дыскусію, выклікае ў людзей шмат пытанняў і заклапочанасць у грамадстве, спрые дэстабілізацыі і нагнятанню становішча ў краіне.

Зыходзячы з таго, што «заплюшчваць вочы на гэтую праблему было б амаральна», БКМ у канцы мінулага году звярнуўся да кіраўніка дзяржавы, прэм'ер-міністра і кіраўнікоў абедзвюх палат парламенту з шэрагам прапановаў. У прыватнасці, Беларускі камітэт міру заклікае:

— прыняць неадкладныя заходы па дзяржаўнай ахове ўрочышча Курапаты;

— зацвердзіць ахоўную зону помніка гісторыі і культуры, зону рэгулявання забудовы мемарыялу, а таксама зрабіць агароджу зоны помніка;

— абвясціць рэспубліканскі конкурс на праект «Мемарыялу пралітай крыві» і ўзвесці яго ва ўрочышчы ў 2002-2003 гадах.

**БелаПАН**

## Конкурс на новы беларускі гімн

Умовы конкурсу на словы і музыку новага беларускага гімну разгледжаны 15 студзеня на першым паседжанні працоўнай камісіі пад кіраўніцтвам віцэ-прэм'ера Уладзіміра Дражына.

Да 1 красавіка грамадскія арганізацыі, творчыя саюзы і звычайныя грамадзяне могуць дасылаць у камісію свае варыянты. Пяць найлепшых запішуць у выкананні духавога аркестру, з іх журы выбера тры творы, а ўжо з гэтых трох вызначыць пераможцу. Новы беларускі гімн павінен упершыню прагучаць у Дзень незалежнасці 3 ліпеня. Найбліжэйшым часам Савет міністраў зацвердзіць палажэнне аб конкурсе.

У інтэрв'ю Беларускаму тэлебачанню міністр культуры Леанід Гуляка не выключыў, што музыка гімну застанецца ранейшай, а словы будуць новыя. Так быў прыняты цяперашні расійскі гімн: на мелодыю гімну СССР наклалі больш «сучасны» тэкст.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## ДАТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЁСЫ

### 18 студзеня

**1401**. Ягайла і Вітаўт падпісалі Віленскую унію. Умова была такая: калі першым памрэ Вітаўт — уладаром Вялікага Княства станецца Ягайла, а калі першым на той свет адыдзе Ягайла — палякі меліся б выбраць караля са згоды Вітаўта.

**1882**. Нарадзіўся англійскі пісьменнік Алан Аляксандэр Мілн, аўтар аповесцяў пра Віні-Пуха (*Winnie-the-Pooh*).

**1912**. Экспедыцыя Роберта Скота дасягнула Паўднёвага полюсу, які на месяц раней адкрыў Раальд Амундсен. На зваротным шляху Скот і ягоныя спадарожнікі загінулі.

### 19 студзеня

**1802**. У мястэчку Капаткевічы на Мазыршчыне нарадзіўся пісьменнік, удзельнік паўстання 1830—31 гг. Іпаліт Клімашэўскі. На эміграцыі ў Францыі ён заснаваў таварыства Віленскай бібліятэкі (меркавалася, што гэты кнігазбор заменіць бібліятэку Віленскага ўніверсітэту, зачыненага царскімі ўладамі). У 1865 г. гэтая Версальска-Віленская бібліятэка налічвала больш за 20 тыс. тамоў, 5 тыс. малюнкаў і гравюраў, больш за 500 рукапісаў. Цяпер гэты збор уключаны ў склад бібліятэкі Польскай акадэміі навук.

**1940**. ЦК КП(б)Б прыняў пастанову пра высяленне з Заходняе Беларусі ў Сібір амаль 50 тысячаў чалавек — польскіх асаднікаў з сем'ямі.

### 20 студзеня

**1892**. У адзін дзень нарадзіліся два выбітныя дзеячы айчыннай культуры — філолаг Браніслаў Тарашкевіч і харавы дырыжор Рыгор Шырма. Рэпрэсаваны Тарашкевіч пражыў на 40 гадоў менш.

**1902**. Нарадзіўся турэцкі пісьменнік Назым Хікмет. Амаль трацiну жыцця (17 гадоў) адседзеў у вязніцах за камуністычныя перакананні.

**1922**. Памёр этнограф і археолаг Еўдакім Раманаў. Сабраў і надрукаваў больш як 10 тыс. твораў беларускага фальклору, склаў археалагічныя карты Магілёўскай, Віцебскай і Гродзенскай губерняў, дзе пазначыў больш за 1 000 гарадзішчаў.

**1942**. Нарада кіраўнікоў нацысцкага рэжыму прыняла пастанову пра «канчатковае вырашэнне габрэйскага пытання». Увесну пачалося знішчэнне габрэяў у газавых камерах. Краіны-сатэліты Германіі спрабавалі ўхіліцца ад выканання гэтай праграмы, але толькі Балгарыя здолела абараніць сваіх габрэяў.

**1960**. У БССР стала на адну вобласць менш: скасавалі Маладзечанскую.

**1982**. Озі Осбарн трапіў у лякарню пасля таго, як падчас канцэрту адкусіў галаву кінутаму на сцэну кажану. Сяявак меркаваў, што кажан штучны.

### 21 студзеня

**1887**. У Чэхіі нарадзіліся сіямскія блізняты Роза і Жазефіна Блацэк. Яны гралі на музычных інструментах, маглі танцаваць вальс утраіх з партнёрам. На гастролях у Амерыцы Роза закахалася і зацяжарыла. Калі яна нарадзіла паўнавартаснае дзіця, Жазефіна таксама атрымала прапанову рукі і сэрца, але вяселле не адбылося: юрысты разгледзалі такі шлюб як дваяжэнства.

**1937**. Першая кулінарная тэлеперадача выйшла на канале Бі-Бі-Сі. Вядучы Марсель Бульстэн прысвяціў яе прыгатаванню амлета.

### 22 студзеня

**1857**. У Магілёве нарадзіўся рэвалюцыянер-народнік Рыгор Ісаеў, удзельнік замахаў на жыццё цара Аляксандра II, у тым ліку паспяховага. Асуджаны да пажыццёвае катаргі, памёр у вязніцы ад сухотаў.

**1902**. Гільельма Марконі наладзіў першую паспяховую радыёперадачу з Карнуэла на востраў Уайт, дзе годам раней памерла англійская каралева Вікторыя.

**1997**. У Архангельскай вобласці ўпаў у балота і патануў знішчальнік-перахопнік *МиГ-31*. Пілотаў дасталі толькі на пяты суткі. Гэта былі беларусы В.Стрыжэнікаў з Гродна і Ю.Шчарбанёў з Горак. Спрабуючы ўратаваць машыну, яны адмовіліся катапультавацца.

### 23 студзеня

**1832**. Нарадзіўся адзін з заснавальнікаў імпрэсіянізму Эдуар Мане. Шакіраваў публіку тым, што замест антычных багіняў голымі маляваў прастытутак.

**1937**. У Маскве пачаўся адкрыты судовы працэс над удзельнікамі г. зв. «антысавецкага трацкісцкага цэнтру». 11 чалавек з ліку былых рэвалюцыянераў і буйных дзяржаўных дзеячаў атрымалі смяротны прысуд за «здраду і шпіянаж». Апроч таго, да пакарання смерцю былі завочна асуджаныя Троцкі і ягоны сын Леў Сядоў.

### 24 студзеня

**1712**. Нарадзіўся прускі кароль Фрыдрых Вялікі. Пераўтварыць занядбаную германскую правінцыю ў квітнеючую перспектыўную шакласную дзяржаву каралю-філосафу дапамагло тое, што ён задоўга да іншых суверэнаў зрабіў абавязковай пачатковую адукацыю. За сваю мудрасць Фрыдрых атрымаў мянушку «паўночны Саламон».



**1732**. Нарадзіўся французскі драматург П'ер Бамаршэ. На сюжэты ягоных сатырычных камедыяў «Севільскі цырульнік» і «Вяселле Фігаро» Моцарт і Расіні напісалі славутыя оперы. Бамаршэ займаўся таксама бізнесам — забяспечыў зброяй амерыканцаў, калі тыя змагаліся за незалежнасць.

**1827**. У Лідскім павеце нарадзіўся Аляксандр Далеўскі, адзін са стваральнікаў Братняга саюзу літоўскай моладзі, што дзеяў у Лідзе, Слоніме, Навагрудку, Бабруйску і Мінску, а мэтаю меў вызваленне Рэчы Паспалітай і абвяшчэнне яе рэспублікаю. Паўстанне было прызначанае на 5 красавіка 1849 году, але напярэдадні яго кіраўнікоў арыштавалі. Далеўскі быў асуджаны да 10 гадоў сібірскае катаргі.

**1872**. Нарадзіўся савецкі навуковец і дзяржаўны дзеяч Глеб Кржыжаноўскі, кіраўнік «электрыфікацыі ўсяе краіны» (плану ГОЭЛРО), аўтар рэвалюцыйных песень «Варшавянка» і «Шалейце, тыраны».

**1947**. Памёр ад францаў знакаміты гангстэр Аль-Капоне. За час ягонага кіравання чыкагскай мафіяй у горадзе былі забітыя каля 700 чалавек. Капоне быў асудзілі на 11 гадоў зняволення, але датэрмінова выпусцілі за добрыя паводзіны. На волі ён працягваў кіраваць мафіяй, а таксама гандляваў зброяй і мясам.

**1961**. У небе над штатам Паўночная Караліна загарэўся стратэгічны бамбардзіроўшчык *B-52*. Трое з васьмі чальцоў экіпажу загінулі, а самалёт згубіў дзве атамныя 24-мегатонныя бомбы. Адна з іх упала на зямлю без ніякіх непрыемных наступстваў, хоць пяць з шасці прыладаў бяспекі сапсаваліся, а другая трапіла ў балота, і яе так і не адшукалі.

Падрыхтаваў **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## Новае пакаленне

Амерыканская карпарацыя *Intel* прадставіла сёння шырокай публіцы новы мікрапрацэсар з рэкорднай тактавай частатой (хуткасцю) 2,2 гігагерца. Як паведаміў прадстаўнік карпарацыі, у крамы ЗША ўжо паступаюць камп'ютэры *Dell*, *Compaq* і шэрагу іншых кампаніяў, аснашчаныя новай версіяй мікрапрацэсара *Pentium-4*. Новае дзіця *Intel'у* адзначаецца не толькі рэкорднай хуткасцю апрацоўкі інфармацыі, але і меншымі памерамі кампанентаў мікрапрацэсара. Калі дагэтуль памеры кампанентаў чыпу складалі 0,18 мікрона, то цяпер – 0,13 мікрона. Да таго ж унутраныя злучэнні ў мікрапрацэсары выкананы з выкарыстаннем не алюмінію, а медзі, якая нашмат лепш праводзіць электрычны ток. Гэта дазволіць рэзка павысіць эфектыўнасць і прадукцыйнасць працы камп'ютэраў.

## Адам і Ева былі эфіопы

Вучоныя, якія даследавалі код ДНК у розных народаў свету, прыйшлі да высновы, што першы чалавек на Зямлі нарадзіўся на тэрыторыі сучаснай Эфіопіі і быў, адпаведна, чарнаскуры.

Паводле дадзеных даследчыкаў, генетычны код самых першых прадстаўнікоў чалавечага роду знойдзены ў часткі жыхароў Эфіопіі і амаль ва ўсіх народнасцяў, якія гавораць на кайсанскіх мовах. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што менавіта ад кайсанскіх моваў, якія адносяцца да гэтак званых «шчоўкаючых», бяруць пачатак усе сучасныя мовы. А самі афрыканцы, якія гавораць на іх, каля 100 000 гадоў таму жылі на паўночным усходзе Афрыкі і сышлі на поўдзень кантыненту толькі пад ціскам плямёнаў, якія гавораць на банту. Да месца будзе зазначыць, што і сёння на кайсанскіх мовах гавораць некаторыя народнасці, што жывуць у Танзаніі.



Як паведамляе *The American Journal of Human Genetics*, першы чалавек, наколькі можна меркаваць, з'явіўся каля 150 000 гадоў таму. Цікава, што для вызначэння часу вучоныя карыстаюцца выключна ДНК мужчын, гісторыю якіх можна адсачыць па генетычных зменах у Y-храмасоме.

Калі ж казаць пра першыя народы свету, то ніякай сенсацыі тут няма. Вучоныя згодныя з думкай сваіх папярэднікаў, што піянерамі тут могуць лічыцца пігмеі з цэнтральных раёнаў чорнага кантыненту і народнасць кунг, якая адносіцца да бушменаў і пражывае цяпер на паўночным захадзе пустэльні Калахары. Дарэчы, практычна ўсе бушменскія народы карыстаюцца якраз кайсанскімі мовамі.

Вывучаючы мужчынскую ДНК, вучоныя прыйшлі да высновы, што першыя перасяленні народаў пачаліся прыкладна 70–130 тысяч гадоў таму. 50 тысяч гадоў таму адбылася першая кантынентальная міграцыя, у выніку якой людзі апынуліся ў Паўднёвай Аўстраліі. А ўжо з Азіі 20–30 тысяч гадоў таму яны пераправіліся ў Еўропу.

Пры ўсіх новых здабытках біялагічнай навукі пакуль што няма абгрунтаванага тлумачэння таго механізму, які ад першага чарнаскурага чалавека адпачаткаваў іншыя расы, белую і жоўтую.

**Жанна МОНТ**

## «Эратычныя тэрмы» ў Пампеях

Мэта ў рэстаўратараў заўсёды адна – дамагчыся аднаўлення твору мастацтва, ставячыся з найглыбейшай пашанаю да яго сутнасці. Пацвярджэннем гэтага сталі працы, праведзеныя ў падземных тэрмах Пампеі, больш за два тысячагоддзі таму ўпрыгожаных эратычнымі роспісамі (яны адчыняць свае дзверы ў снежні) і ў Падуі.

Абедзве працы, прадстаўленыя ў гэтыя дні, зарука рашэнню міністра Урбані, які ў мінулую сераду заявіў, што выступіць з прапановай аб стварэнні ў Еўрапейскай Супольнасці агенцтва па рэстаўрацыі, у якім належнае месца зоймуць італьянскія эксперты. Рэстаўратары-мінімалісты хутчэй за ўсё, не пагодзяцца з працаю над фрэскамі ў Капэле дэ Скравені ў Падуі, выкананай Цэнтральным інстытутам па рэстаўрацыі Італіі.

Праца, выкананая дагэтуль, прадстаўляе 40% паверхні – гэта каля 900 квадратных метраў – расписанае Джота на пачатку XIV ст. Мастак намаляваў на мурах капліцы сям'і Скравені шэраг сакральных сцэнаў, які сканчаецца Страшным Судом, прадстаўляючы, такім чынам, падабенства Сікстынскай Капэлы ў мініяцюры. Неверагоднае хараство твору не ўберагло яго ад забыцця, у якім ён знаходзіўся аж да пачатку XIX ст.

Шэраг падзеяў ледзь не прывёў да знікнення гэтага помніка эпохі Адраджэння, але найвялікшую шкоду яму зрабілі рэстаўрацыйныя працы XIX і пачатку XX стст. З-за змены складу фарбы частка сцэнаў практычна поўнасцю знікла, тым часам як вільгаць пагражала разбурыць увесь ансамбль. Выдаткі на рэстаўрацыю ўзяло на сябе італьянскае міністэрства культуры, якое выдаткавала на працы каля 300 мільёнаў песет.

У адрозненне ад працаў у Падуі, рэстаўрацыя падземных тэрмаў у Пампеях фінансавалася з розных крыніц, пачынаючы з таго моманту, як фрэскі дасталі на святло ў 1985–1987 гг. Эратычныя тэрмы – выдатна захаваны ансамбль, з якога вылучаецца зала, якая служыла для пераадзявання мужчын і жанчын, багата ўпрыгожаны роспісамі сексуальнага зместу. Час ацаліў усяго восем сцэн, сярод якіх ёсць сцэны аральнага сексу і лесбійскіх уцех – усё гэта спарадзіла вялікую палеміку што да сапраўднага прызначэння гэтага будынку. Многія археолагі мяркуюць, што гэта быў публічны дом (*lupanar*).

**«El Pais»**

# Аднятае багацце Зэльвы

## *Славу Зэльвы падсеклі расійскія канкурэнты*

*Наваколле Зэльвы з даўніх часоў славіцца прыгожымі, багатымі на дзічыну лясамі ды рыбнымі рэчкамі, што ўюцца празрыстымі струмянямі паміж непралазных балотаў. Меліяратары, што нарабілі столькі шкоды беларускай прыродзе за савецкім часам, хаця ж і спакушаліся на гэтыя землі, але не здолелі знішчыць іхнай прыгажосці цалкам. Менавіта гэтыя мясціны з такой любоўю і пяшчотай апісаў Уладзімір Караткевіч у сваім рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Тут, недалёка ад Зэльвы, на беразе возера, што завецца Бяздоннае, спаткаўся ягоны літаратурны Хрыстос са сваімі апосталамі-беларусамі.*









Наваколле Зэльвы вядома з эпохі войнаў паміж князем Данілам Галіцкім і літоўскім князем Войшалкам. У старажытнай хроніцы згадваецца, што войска Данілы шукала праціўніка на беразе ракі Зэльвы (так называлася аж да XIX стагоддзя Зяльвянка), але ж непасрэдна пра самую асаду гораду тады ні згадкі не было. Самы старажытны ўспамін датуецца 1470 годам, калі першы з вядомых уладароў гораду Міхал Нацовіч пабудаваў на жвіравай гары над ставам касцёл у гонар Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і адразу ж надаў яму багатыя ўладанні.

Калі Зэльва перайшла да наступных гаспадароў — Іллінічаў — дакладна не вядома, але ёсць звесткі, што ў пачатку XVI стагоддзя адна з княгінь гэтага роду, а менавіта княгіня Анна, фундавала і багата аздобіла алтар тутэйшага касцёлу. Прыкладна ў той самы час паўстала пры парафіяльнай святыні лякарня, якую апекаваў мясцовы парах.

Не пазней 1536 году Зэльва на некаторы час перастала быць прыватным уладаннем і зрабілася ўласнасцю караля. У тым самым годзе кіраваў горадам Іван Гарнастай, земскі падскарбій, маршалак літоўскі і, адначасова, староста слонімскі, які падпісаў у Вільні дакументы, што тычыліся Зэльвы. Можна меркаваць, што быў ён на правах пажыццёвага ўладара ці не меў нашчадкаў, бо ўжо праз год Мікалай Пац сілай захапіў і далучыў да сваёй маёмасці Зэльву з акругай (ёсць пра гэта матэрыялы ў «Літоўскай метрыцы»). З гэтай нагоды кароль прызначыў спецыяльных камісараў для разбору інцыдэнту, якім было строга загадана не з'язджаць да той пары, пакуль не скончаць справы. Вось камісары і вырашылі праблему такім чынам, што спрэчныя землі сталі каралеўскай уласнасцю.

У часы панавання Жыгімонта III, недзе ў пачатку другой паловы XVI стагоддзя, па ягоным загадзе былі зробленыя так званыя «эканоміі», ці, інакш кажучы, вопісы эканамічнага стану земляў Вялікага княства Літоўскага. У іх мы знаходзім такое апісанне Зэльвы: «Сяло ў былым войтаўстве эканоміі гародненскай, недалёка ад ракі Нёман у адну лінію пабудаванае, хаты – тылам да ракі Зэльвы, а гумны насупраць іх праз вуліцу». Граніцы зямельнай маёмасці мястэчка ў той час былі даволі разлеглыя і сягалі Нёмана.

У пачатку XVII стагоддзя Зэльва зрабілася прыватным уладаннем роду Сапегаў, слаўнага на Беларусі сваёй дабрачыннасцю і фундатарскай дзейнасцю, але як гэта здарылася і калі — дакладна не вядома. У той жа самай Літоўскай метрыцы ёсць дакументы аб тым, што Леў Сапега ўжо ў 1632 годзе, незадоўга да смерці, перадаў Зэльву з усёй нерухомасцю ў спадчыну Яну Казіміру, які гэтаксама меў тытул «маршалак літоўскі». А той ужо, будучы бяздзетным, адпісаў у тэстаменце горад малодшаму брату Казіміру Львовічу, падскарбію Вялікага Княства.

«Залаты век» для Зэльвы настаў толькі ў першай палове XVIII стагоддзя, калі сын Антонія Казіміра Сапегі Аляксандр, сапраўды дабрадзей гораду, сур'ёзна заняўся клопатам пра Зэльву. І вынік ягонай працы можа быць добрым узорам нават для сучасных дзяржаўных дзеячаў і прамысловых начальнікаў, колькі можна зрабіць у сферы экономікі пры разумным кіраванні, як і ўзорам таго, як можна загубіць справу, калі гаспадаром — часовы чалавек, які не ўпэўнены ў заўтрашнім дні, а таму кіруецца адно жаданнем хуткай нажывы і тым самым робіць непапраўную шкоду ўсёй справе цалкам.

Аляксандр Сапега найперш узяўся за стварэнне ў Зэльве кірмашу, пра які, як ні дзіўна, мы зусім нічога не ведаем. Факт існавання Зэльвенскага кірмашу замоўчваўся савецкімі гісторыкамі па зразумелых прычынах, хаця існаваў ён адносна нядаўна – якіх 200 гадоў таму. Справа ў тым, што на яго прыкладзе можна добра прасачыць не толькі тую ролю, што адыграла Расійская імперыя ў заняпадзе эканамічнага і культурнага развіцця нашай Бацькаўшчыны. Сам факт існавання гэтага кірмашу сведчыў пра ілжывасць тых паказак аб жыхарах беларускіх земляў, якімі поўныя этнаграфічныя працы XIX стагоддзя. На прыкладзе Зэльвы добра відаць, што адбывалася тут на самой справе. З іншага боку, постаць самога Сапегі не супадала з традыцыйным для савецкай гісторыі вобразам пана-эксплуататара.

20 траўня 1720 году Антоній Казімір Сапега, бацька Аляксандра Сапегі, атрымаў прывілей на правядзенне кірмашоў і таргоў у дзень Святой Тройцы па Грыгарыянскім календары ў малавядомым мястэчку Зэльве. А амаль праз 20 гадоў, у 1739 годзе, мястэчка ў спадчыну перайшло да Аляксандра. У той час было ў ім менш за сто двароў. Насельніцтва Зэльвы складалася тады пераважна з сялянаў-беларусаў ды габрэяў. Малады Сапега з ходу распачаў энергічную дзейнасць па арганізацыі гандлю, не зважаючы ўвагі на аддегласць Зэльвы ад буйных гарадскіх цэнтраў і гандлёвых шляхоў. І вынікі яго руплівай, а галоўнае, разумнай дзейнасці праявіліся ўжо праз некалькі гадоў. Найбольшага ж росквіту зэльвенскі гандаль дасягнуў у другой палове XVIII стагоддзя. У «Гандлёвым дзённіку» сярэдзіны—другой паловы XVIII стагоддзя пра горад напісана так: «...акрамя штотыднёвых таргоў, існуе чатырохтыднёвы кірмаш, які пачынаецца 4 жніўня. Крамы, лікам пад 200, пабудаваныя ў квадрат, не былі ў стане змясціць усіх тавараў, калі прыязджалі купцы з розных, нават вельмі далёкіх краінаў». Існуе думка, што Зэльвенскі кірмаш быў другім у Еўропе па багацці і разнастайнасці тавараў, таваразвароце і колькасці гандляроў пасля Лейпцыгскага. Галоўным і самым прэстыжным таварам на ім былі коні. Купіць каня ў Зэльве – азначала тады купіць вельмі добрага і дарагога каня. Колькасць прапанаваных на продаж сягала некалькіх тысячаў. Табун самога Аляксандра Сапегі быў надзвычай вялікі і якасны. Ён налічваў больш за тысячу коней англійскай, турэцкай, дацкай і неапалітанскай пародаў. У сярэдзіне другой паловы XVIII стагоддзя таваразвароты кірмашу дасягалі некалькіх мільёнаў злотых — астранамічных сумаў на той час. На таргі збіраліся не толькі тутэйшыя, наязджалі сюды для забаваў багацеі і авантурысты з усіх краінаў Еўропы, прыходзілі са смаргонскай «акадэміі» дрэсіроўшчыкі са сваімі медзвядзямі, цыганы, зладзюжкі ды іншы стракаты люд.

Безумоўна, буйныя памеры Зэльвенскага кірмашу не маглі не паўплываць на эканамічнае развіццё ўсяго рэгіёну. Напрыклад, нездарма вялікі гетман літоўскі Міхаіл Казімір Агінскі (вядомы мецэнат, драматург, кампазітар, уладар суседняга Слоніма) пачаў пракладаць вядомы канал Агінскага, які злучыў рэкі Ясельду са Шчарай і тым самым павязаў раку Нёман Балтыйскага басейну з ракой Прыпяццю, якая ўпадае ў Чорнае мора. Гэта не толькі палегчыла дастаўку ў Зэльву тавараў з Еўропы і з міжземнаморскіх гарадоў, але і дало магчымасць закласці ў Слоніме буйныя аптовыя склады, наладзіць інфраструктуру для прыёму купцоў і адпраўкі іх з таварамі ў Зэльву на свае ўласныя кірмашы...

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, калі Зэльва ў ліку іншых беларускіх гарадоў адышла да Расійскай Імперыі, кірмашныя справы адразу пайшлі на спад, бо новыя гаспадары прызначылі непамерныя падаткі. А пасля канфіскацыі маёмасці ў Сапегаў у 1832 годзе за падтрымку антырасійскага паўстання 1831 году кірмаш увогуле заняпаў, пазбаўлены разумнага кіравання. Новая ўлада, гублюючы на вачах прыбыткі, паспрабавала нешта аднавіць, але захады гэтыя былі смеху вартыя. Напрыклад, да барацьбы з перакупшчыкамі ўлады даслалі афіцэра з 30 салдатамі, прызначылі ўезнага лекара на выпадак хваробы каго-небудзь з гандляроў і да т.п. Так перасталі прыязджаць купцы з дзіўнымі заморскімі таварамі, і ўжо ў саракавыя гады XIX стагоддзя кірмаш ператварыўся ў звычайны вясковы базар.

Вядома, што развіццё і багацце Зэльвенскага кірмашу адбілася і на архітэктурным абліччы мястэчка. Акрамя старажытнага касцёла ў XVIII стагоддзі тут была пабудаваная прыгожая грэцка-каталіцкая царква, потым пераробленая на праваслаўную, і хіба адна з найбагацейшых у тым рэгіёне сінагога. З каталіцкіх ордэнаў былі тут толькі айцы піяры, якіх запрасіў у Зэльву князь Габрыэль Шмідт. Школа піяраў у Зэльве мела досыць высокі ўзровень. Але ў XIX стагоддзі піяраў прагналі, і школа ператварылася ў звычайную местачковую пачатковую школку. Вось так скончыўся ўзлёт Зэльвы.

**Андрэй ПЯТЧЫЦ**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**


Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1110 Нумар падпісаны ў друк 17/01/2002 (15:00) Наклад — 8.680